# наша свабода

№32(119) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 САКАВІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Наша свята на пражскім бруку



Беларуская прысутнасць у Празе доўжыцца да эміграцкай хвалі апошніх гадоў яшчэ ад вучобы там каля пяці стагоддзяў таму Францішка Скарыны. Зараз у чэшскай сталіцы беларусаў досыць багата. Напярэдадні 25 сакавіка іх становіцца яшчэ болей.

Дзень Волі тут святкавала грамадой амаль каля сотні чалавек. Сабраліся супрацоўнікі пражскай студыі беларускага радыё «Свабода», пражскія беларусы, палітычныя ўцекачы, завіталі суайчыннікі з Польшчы, ЗША ды іншых краінаў свету. У прыватнасці, з Вільні прыехаў спікер Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, з Беларусі – пісьменнік Уладзімір Арлоў і бард Віктар Шалкевіч. Да даты абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Празе тамтэйшым беларусам штогод адмыслова выдзяляюць для правядзення ўрачыстасцяў залу. Гэтак было і з сёлетнімі святочнымі імпрэзамі, арганізаванымі суполкай беларусаў у Празе «Скарына», асаблівасцю стала тое, што гэта быў першы Дзень Волі ў новым стагоддзі: нездарма ў бібліятэцы прайшла акадэмія пад назвай «Ідэалы БНР у 21-ым стагоддзі».

Свята ў Празе распачалося з ускладання кветак каля мемарыяльнай дошкі Ф. Скарыны, гімна «Магутны Божа», зачытання звароту старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы і прамовы Сямёна Шарэцкага.

*Заканчэнне на стар.3*

## Кіеўскае супрацьстаянне



Унічыю — 0:0 завяршылася гульня адборачнага турніру да чэмпіянату свету па футболе паміж зборнымі Украіны і Беларусі. У напружаным матчы пад няспынны роў кіеўскіх фанатаў футбалісты гэтай краіны ўпарта штурмавалі вароты беларусаў, аднак нашы хлопцы здолелі выстаяць і ўзялі вельмі важнае ачко, захаваўшы такім чынам другое месца ў сваёй адборачнай групе.

У Кіеве напярэдадні гульні адбыліся жорсткія сутычкі паміж гаспадарамі і прыбыўшымі з Беларусі аматарамі футболу. Каля дзесяці чалавек былі параненыя і шпіталізаваныя. На гульні, а таксама пры ўсіх астатніх падзеях прысутнічаў таксама спецыяльны карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ, і ў наступным нумары будзе ягоны рэпартаж аб гэтай сустрэчы.

# Народ і ўлады ў Дзень Волі



Для абазнаных, як звычайна праходзяць у Беларусі вулічныя апазіцыйныя акцыі, першае святкаванне Дня Волі 25 сакавіка ў новым стагоддзі дзіўным не выглядала. Улады зноў выявілі паталогію гвалтам рэагаваць на мірныя дэманстрацыі. Пільнаваць дэманстрантаў сцягнулі больш тысячы міліцыянтаў, прычым іхнімі дзеяннямі кіраваў асабіста міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў. Апазіцыя ў сваю чаргу паказала цвёрдасць і прынцыповасць – правяла акцыю збольшага там і так, як таго вымагаў статус свята. Людзі не пайшлі ў прадастаўленую Мінгарвыканкамам рэзервацыю Бангалор, а дабраліся, у тым ліку праз міліцэйскія шыхты, да плошчы Свабоды.

Шмат народу сабралася ўдзень на сталічнай Юбілейнай плошчы, з усіх бакоў абкружанай АМАПам і спецназаўцамі. Усё бало зроблена пад наглядам У.Навумава. Праз узмацняльнікі народ настойліва адпраўлялі на Бангалор. Нягледзячы на гэта, у 14.40 з Юбілейнай плошчы пачалося двухтысячнае шэсце да праспекта Машэрава. З кожнай хвілінай калона болела, і каля стэлы на перакрыжаванні праспекта і вуліцы Іерусалімскай людзей было ўжо ўтрая болей. На кургане каля стэлы быў наладжаны мітынг, а пакуль ён цягнуўся, у гэты раён вераніцамі пад'язджалі дзесяткі машын і аўтобусаў з АМАПам і салдатамі ўнутраных войскаў. Яны падвойнымі шыхтамі ачапілі раён стэлы па перыметры і крок за крокам наступалі на дэманстрантаў. Праз некалькі хвілінаў пачаўся разгон, хаця людзі ўжо на той момант пачалі разыходзіцца пасля мітынгу дадому. АМАПаўцы дзейнічалі дужа жорстка, працягваючы збіваць людзей нават у «ваўранках». Там апынулася 13 чалавек, у тым ліку былі затрыманыя старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Людміла Гразнова, старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец. Сёння пройдуць суды.

Пасля гэтага міліцыя зняла кардоны, а людзі сталі асобнымі купкамі сцякацца ад стэлы на плошчу Свабоды. Святкаванне Дня Волі само сабой пераўтварылася ў масавыя народныя гулянні. У выніку на плошчы Свабоды сабраліся некалькі сотняў чалавек.

*Заканчэнне на стар.3*

# «Это агония правящей власти...»

## *Интервью Тамары Винниковой*

1 марта сотрудниками Управления комитета по борьбе с организованной преступностью был задержан Сергей Винников, сын экс-председателя Национального банка Тамары Винниковой. «3 марта ему предъявили обвинение по ч.3 ст.328 УК РБ (незаконный оборот наркотических средств). Статья содержит угрозу наказания лишением воли на срок от 5 до 10 лет.

Сергею Винникову 26 лет, он женат, его сыну пять лет. В квартире проведен обыск. Мать Сергея Винникова в 1997 году была обвинена в служебных преступлениях, 10 месяцев ее продержали в следственном изоляторе КГБ. С апреля 1999 года живет в Англии.

Корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ обратился к Тамаре Винниковой с просьбой высказать свое отношение к этому драматическому происшествию.

***— Тамара Дмитриевна, как вы оцениваете такие действия властей? В чем, на ваш взгляд, их смысл?***

— Я очень переживаю за сына. Так получилось, что удар против меня при моем аресте лег на его плечи. Особенно трудно было после моего исчезновения, над семьей Сережи просто издевались. Семья молодая, им было тяжело находиться под наружным наблюдением почти два года. Постоянная наружка, обыски в квартире. Даже когда был болен маленький ребенок, спал, его стаскивали с кроватки, искали что-то, указывающее на мое местопребывание. На просьбу прийти позже, когда ребенок проснется, говорили, что он обыску не мешает.

Они все терпели ради меня. Этот удар болезненный. Он отражает крайнюю степень раздражения моих врагов.

Ряд моих публикаций, касающихся хищений сотен миллионов долларов должностными лицами высокого ранга, нынешних и бывших, вызвал у них шок. Ведь держали у меня в квартире охрану, применяли пытки с одной целью — я должна была молчать. Огромные хищения по сей день не расследуются правоохранительными органами, хотя многие из них выявлены. Они покрываются лично президентом страны, например, по вкладам населения.

Смысл ареста моего сына — в устрашении, и не только меня, но всех, кто попытается бороться с творящимся в стране беспределом.

Я знала, что, кроме моего сына, иных рычагов давления на меня у моих влиятельных врагов не осталось.

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **Паводле інфармацыі міністэрства статыстыкі і аналізу, за першыя два тыдні сакавіка рост спажывецкіх цэнаў у Беларусі склаў 2,6%.** За аналагічны перыяд лютага 2001 года цэны падвысіліся на 2%. А за першыя 14 дзён леташняга сакавіка цэны выраслі на 1.9%.

■ **Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці 23 сакавіка затрыманы чацвёра супрацоўнікаў гомельскай мытні.** Супраць іх узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі». Затрыманым мытнікам інкрымінуюцца неаднаразовыя факты незаконнага мытнага афармлення іншамарак.

■ **На 1 сакавіка запазычанасць па зарплаце ў Беларусі склала звыш 11 мільярдаў рублёў.** Прычым у гэтай суме 70% прыпадае на сельскую гаспадарку. Каля трохсот суб'ектаў гаспадарання вінныя заробкі за 4 месяцы запар.

■ **У гарадскім пасёлку Наваельня на Гродзеншчыне з могілак скрадзена 20 надмагільных крыжоў, выробленых з каляровых металаў.** Міліцыя затрымала двух мясцовых жыхароў, у якіх гэтыя самыя крыжы і знайшлі. Злачынцы збіраліся прадаць іх у скупку каляровых металаў.

■ **Навукоўцы «Белмедпрэпаратаў» распрацавалі новыя лекі супраць раку. Называецца ён «Фаталон».** Клінічныя даследаванні паказалі амаль 100% эфектыўнасці сродку. Прэпарат будзе выкарыстоўвацца пры лячэнні пухлінаў паверхневай лакалізацыі. «Фаталон» ужо атрымаў патэнт, і ў красавіку плануецца ягоная вытворчасць.

■ **Запасаў паліва для ацяплення кватэраў на сённяшні момант маецца прыкладна на тры тыдні.** Калі глядзець на прагнозы метэаролагаў, што першая палова красавіка будзе халоднай, то энерганосьбіты на ацяпляльны сезон вычарпаюцца амаль упрытык. Нагадаем, па нарматывах батарэі будуць адключаныя, калі тэмпература паветра на працягу 5 дзён пратрымаецца вышэй за 8 градусаў цяпла.

■ **Беларускае таварыства «Кніга» занялося выдавецкім серыйным праектам з назвай «Народная бібліятэка».** Першымі ў гэтай серыі выйдуць творы Васіля Быкава і Ніла Гілевіча. Кніжкі «Народнай бібліятэкі» маюць быць надрукаваныя на газетнай паперы. Эканомія сродкаў такім чынам дазволіць зрабіць серыю недарагой і як мага буйной па накладзе.

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1320**



# Сабачае мяса

У суботу вечарам я з задавальненнем глядзеў Беларускае тэлебачанне. У эфіры быў футбол Украіна – Беларусь, адборачны матч чэмпіянату свету. Так зрабілася апошнія гады, што спорт на канале БТ стаў ці не апошнім прытулкам для тутэйшых беларусаў, бо амаль што ва ўсіх астатніх перадачах тытульную нацыю прама ці ўскосна зневажаюць, бэсцяць мову, развіваюць у беларусаў комплекс непаўнавартасці з тым, мусіць, каб аслабіць нацыянальны супраціў русіфікацыі, каб Маскве было ямчэй прыбраць да рук нашу краіну. Вось і ў суботу вечарам, пасля футбола, на экране з'явіўся адкормлены маладзён з беларускім прозвішчам Казіятка (мусіць, і сам быў некалі беларусам), ды пачаў фактычна даводзіць тэлегледачам, што наша мова непаўнавартая ў параўнанні да расейскай. А каб яму паверылі, выпхнуў на экран нейкага панурага небараку, выкладчыка тэхнічнай установы, каторы пад нос мармытаў наконт «інфармацыйных патокаў» у інтэрнэце, якія, быццам, амаль што напалову – на расейскай мове. Дык таму, маўляў, і нам трэба пераходзіць на расейшчыну.

Калі гэта пачуюць у далёкай палескай вёсцы, дык падумаюць: бач ты, разумныя людзі, мусіць, маюць рацыю, трэба ўнукаў ды ўнучак кіраваць у расейскія школкі. Але той, хто штодня падарожнічае ў сусветнай Павуціне ведае, што асноўнай і галоўнай мовай інтэрнэта з'яўляецца ангельская. А на другім месцы ў кожнай краіне стаіць свая, родная, нацыянальная мова. У французаў – французская, у немцаў – нямецкая, у славакаў – славацкая і г.д. І веданне ангельскай мовы дае абсалютную ўладу над інтэрнэтам, а веданне сваёй роднай мовы дае абсалютную ўладу над лепшымі якасцямі ўласнай душы. Ангельская і беларуская мовы – вось тыя камяні, якія павінны ляжаць у падмурку адукацыі сучаснага беларуса. Што тычыцца расейскай мовы, дык яна вывучаецца аўтаматычна праз запалоненыя расейшчынай, амаль што да гарба, тэле-радыёэфір, кіназалы ды кніжныя паліцы.

І гэтага хопіць. Цывілізацыя ідзе з Захаду на Усход. Расея гэтаксама вучыцца ўсяму новаму ў Захаду, як і Беларусь. Дык нашто нам пазіраць у крывое маскоўскае люстэрка замест таго, каб яснымі вачыма глядзець проста ў твар сучаснай цывілізацыі без пасярэднікаў? Калі вы зараз звернецеся да расейскіх сайтаў у інтэрнэце, дык ці знойдзеце там энцыклапедыі, падручнікі, архівы, каталогі? (Усё гэта існуе пераважна на ангельскай мове). Расейскі інтэрнэт запоўнены самай бессаромнай дзіцячай парнаграфіяй, гвалтам, пустой балбатнёй і вялікадзяржаўным шавінізмам.

Пра такіх нацыянальных здраднікаў, якіх мы амаль штодня бачым на беларускім тэлеэкране, дзяды некалі казалі: «Наша костка, але сабачым мясам абрасла». Між тым, на шчасце, ёсць у нас іншыя людзі і іншы ўзровень культуры. Менавіта таму футбольны матч Украіна–Беларусь стаўся святам для тутэйшых, што вёў рэпартаж на добрай беларускай мове і вельмі прафесійна каментатар Сяргей Новікаў. Дзякуй! Выдатна!

Але ж, хлопцы, колькі яшчэ будзем трываць знявагі ўсяго беларускага?

Аляксандар ДУБРАВІН

# «Зубр» пабываў у студэнтаў

23 сакавіка няўрымслівы студэнцкі рух «Зубр» правёў сваю чарговую акцыю – і зноў досыць відовішчна. Гэтым разам «зуброўцы» наведалі вышэйшыя навучальныя ўстановы сталіцы: так бы мовіць, пайшлі туды, адкуль самі выйшлі. Менавіта моладзь, у прыватнасці, студэнцкая, — асноўная крыніца папаўнення шэрагаў «Зубра».

«Зубраўцы» заходзілі ў аўдыторыі, зачытвалі перад здзіўленымі выкладчыкамі і ўзрушанымі студэнтамі, а потым раскідвалі стосы ўлётак з пытаннем «Хто адкажа за зніклых людзей?» і заклікам «Думай! Вырашай! Дзейнічай!» Гэткім было ахоплена некалькі тысячаў студэнтаў у Белдзяржуніверсітэце, БДЭУ, Беларускім універсітэце інфарматыкі і электронікі, Педуніверсітэце і ў «інязе».

Студэнцтва здумлена, а многія салідарна чытала звароты: «Думай! У якой Беларусі ты хацеў бы жыць? У той, дзе знікаюць людзі? У той, дзе ўлада знаходзіцца ў руках аднаго чалавека, які не ўсведамляе сваіх учынкаў? У той, дзе ты не зможаш знайсці прымянення сваім ведам? У той, дзе моладзь адпраўляюць па размеркаванні ў Чарнобыльскую зону? У той, дзе вар'яцкая ўлада вырашае, якую музыку табе слухаць і якія фільмы глядзець? У той, якая не мае будучыні?

Вырашай! Ты абавязаны рашыць, як жыць далей! Поўзаць перад нядбайнай уладай або дыктаваць ёй сваю волю. Пагарджаць за маладушша ці хадзіць з горда ўзнятай галавой. Спадзявацца на пасіўных і бязвольных палітыкаў ці браць на сябе адказнасць за будучыню краіны. Чакаць, пакуль хтосьці ўсё вырашыць за цябе, ці прымаць рашэнні самому. Існаваць ці жыць».

І нарэшце: «Калі ты хочаш жыць, а не існаваць – дзейнічай. Будзь свабодным – наш праціўнік рабом сваіх слабасцяў. Будзь мужным – наш праціўнік бязвольны баязлівец. Будзь сумленным – наш праціўнік хлуслівы і амаральны. Будзь моцным – наш праціўнік разгублены».

І як выснова – «Будзь Зубрам!»

Мар'ян КАРЫМОНТ

## ДЗЕНЬ ВОЛІ



Фота Ул. ШЛАПАКА

Мінск. Дзеяннямі міліцыі супраць дэманстрантаў асабіста кіраваў міністр унутраных справаў генерал-маёр Уладзімір Навумаў

# Нямецкія каровы спрыяюць электрыфікацыі

У адной з гаспадарак Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці плануецца правесці мантаж біягазавай устаноўкі для атрымання цяпла і электрычнасці, якая будзе выкарыстоўваць гной з-пад буйной рагатай жывёлы. Па словах намесніка старшыні Дзяржкамітэта па энергаашчаджэнні і энерганаглядзе Беларусі Аляксандра Савановіча, гэты эксперымент будзе праведзены на падставе вопыту Германіі, дзе ў фермерскай гаспадарцы, разлічанай на ўтрыманне 300 галоваў буйной рагатай жывёлы, магутнасць біягазавай устаноўкі можа складці 60 кВт. Але пры гэтым у часе эксперыменту неабходна будзе ўлічваць той факт, што нямецкая карова дае 75 літраў гною ў суткі, а беларуская – толькі 35 літраў. (Цікава, няўжо і з малаком такая ж самая прапорцыя?) Устаноўку коштам каля 200 тысяч долараў плануецца набыць у Германіі.

Аналагічнае абсталяванне ў Беларусі не выпускаецца, а ўстаноўкі расійскай вытворчасці маюць меншую магутнасць і прызначаныя для выпуску экалагічна чыстага гною, а не для вытворчасці энергіі. Фінансаванне праекта мяркуецца здзейсніць з трох крыніцаў: 40% сродкаў дасць Дзяржкамэнергаашчаджэння, столькі ж – мінпрыроды Беларусі, астатняе аплаціць гаспадарка-заказчык. Калі зыходзіць з нямецкага вопыту, дзе дзяржаўныя датацыі на нетрадыцыйную энергетыку складаюць да 40%, дык устаноўка акупіць сябе за пяць гадоў. Для параўнання – устаноўка, якая выкарыстоўвае вецер, акупляецца за 10 гадоў. Але вецер «карміць» не трэба, а быдла – неабходна кожны дзень зімой і ўлетку. Да таго ж гной патрэбны палям. Аднак цалкам магчыма, што біягазавыя ўстаноўкі будуць шырока ўжывацца на жывёлагадоўчых комплексах. З цягам часу выпуск такога абсталявання будзе наладжаны на прадпрыемствах нашай краіны.

Пётра ЖУКОВІЧ

# Пад радыяцыяй і ў турмах процьма сухотнікаў

Як паведаміла намеснік міністра аховы здароўя Ларыса Сакалоўская, лячэнне аднаго хворага на сухоты абыходзіцца дзяржаве ў 26,5 тысячаў долараў.

За 2000 год у Беларусі на сухоты захварэла 4.896 чалавек і 638 чалавек ад гэтай хваробы памерла, а агульная колькасць туберкулёзнікаў у краіне – 23.000 чалавек. Пры гэтым, па дадзеных дырэктара НДІ пульманалогіі і фтызіятрыі Валянціна Баршчэўскага, колькасць захворванняў за мінулы год паменшылася на 7%, а смяротнасць ад сухотаў – на 13,2%.

Хвароба гэта, як заўважаюць спецыялісты, збольшага эканамічная, і таму сярод іншых краінаў мы займаем, на жаль, досыць высокае месца. Паказчык захворвальнасці ў 1999 годзе ў Беларусі на 100.000 насельніцтва склаў 67,1 чалавека (у Чарнобыльскай зоне – 120 чалавек), у Расіі – 82,3 чалавека, у Германіі, Вялікабрытаніі і Францыі – 10-13 чалавек. Агульная колькасць хворых за 2000 год ва ўсім свеце склала 8,4 мільёна чалавек, з іх больш як 1 мільён жанчын і 100.000 дзяцей, больш за 3 мільёны насельніцтва свету ад сухотаў памерла.

У Беларусі наяўнасць хваробы вызначаецца флюараграфічным і бактэрыялагічным абследаваннем, а яны, як адзначаюць медыкі, каштуюць нятанна. Адно флюараграфічнае абследаванне абыходзіцца дзяржаве ў 1 долар і кожны год флюараграфію робяць 8,6 мільёна беларусаў, а эфектыўнасць яго складае 0,01%. Таму ў мэтах эканоміі ў бліжэйшы час медыкі адмовяцца ад гэтай дарагой практыкі і флюараграфія будзе абавязковай толькі для так званых групаў рызыкі – бамжоў, мігрантаў, алкаголікаў. Тое самае чакае 22.000 дзетак, якім штогод у школе робіцца туберкулінавая скураная проба (рэакцыя Манту). Праз два гады яна будзе рабіцца толькі дзеткам з няўдалых сем'яў.

Эпіцэнтрам распаўсюджвання хваробы заўсёды былі турмы. Там паказальнік захворвання ў 30 разоў перавышае паказчык у цэлым па краіне: у 2000 годзе -- 1.362 на 100.000 асуджаных, у 1999 годзе – 1.402. Усе хворыя пераводзяцца ў калонію ў Оршу, пры якой дзейнічае спецыяльны шпіталь. Зараз там знаходзяцца каля 2.000 хворых на сухоты асуджаных, і ён перапоўнены.

Наогул 15% ад усіх сухотнікаў у Беларусі – вязні. Гэта вынік перапоўненасці калоніяў. Як паведаміла начальнік медслужбы МУС Ларыса Грабоўская, у вырашэнні гэтай праблемы ёсць спадзеў на новы Крымінальны кодэкс, які можа «разгрузіць» турмы.

Алена ЛАБАНАВА

# Васіль Старавойтаў закінуў мемуары

Былы старшыня «Рассвета» адмовіўся ад ідэі напісаць кнігу ўспамінаў. Пэўны час таму Васіль Старавойтаў ужо пачаў было працаваць над мемуарамі, але паступова прыйшоў да высновы, што цяперашні час гэтаму не спрыяе. «Не хачу я карыстацца эзопавай мовай, а цяпер толькі гэтак можна выкласці тое, пра што думаю,» – так ён патлумачыў сваё рашэнне. Да таго ж ён упэўнены, што мясцовыя ўлады не дадуць яму магчымасць працаваць спакойна. «За кожным маім крокам дагэтуль уважліва сочаць, баяцца, як бы я чаго не зрабіў і не сказаў такога, што не будзе даспадобы наверсе і зноў не накліча бяду на «Рассвет». Маё рашэнне пачакаць з напісаннем успамінаў да іншых часоў канчатковае», – заявіў Васіль Старавойтаў.

Між тым, сваякі двойчы Героя сацыялістычнай працы не выключаюць, што спыніць заняцце мемуарыстыкай яму «дапамаглі» і праблемы са здароўем. У Васіля Старавойтава нават ад непрацяглай працы з тэкстамі пачынаюць балець вочы і галава. «Трэба яшчэ падлячыцца», – прызнае 70-гадовы В.Старавойтаў, які нядаўна правёў два гады за кратамі.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

# Уганда правярае беларускія МіГі

Улады афрыканскай краіны Уганды пачалі праверку самалётаў МіГ-21, якія былі закупленыя ў Беларусі. Магчыма, праверкі звязаныя з інцыдэнтам, які адбыўся 13 сакавіка ў Перу, калі там разбіўся МіГ-21, набыты ў Беларусі. Паводле розных крыніцаў пачынаючы з 1996 года Перу закупіла ў Беларусі ад 12 да 21 знішчальніка МіГ, ад 14 да 18 штурмавікоў Су-25, а таксама сістэмы супрацьпаветранай абароны. Як паведамляе амерыканскае выданне Christian Science Monitor, агульная сума кантрактаў толькі на пастаўкі МіГаў з Беларусі і запасных частак да іх з Расіі склала амаль мільярд долараў ЗША. Пры гэтым паплечнікі былога прэзідэнта Перу Альбэрта Фухіморы атрымалі вялікія камісійныя – следчая камісія парламента Перу называе менавіта гэтыя кантракты асноўнай крыніцай, з якой атрымоўваў грошы Уладзімеро Мантэсінас, былы кіраўнік Перуанскай разведкі, які займаўся закупкамі зброі. У Швейцарыі былі «замарожаныя» каля 70 мільёнаў долараў ЗША на 17 рахунках, якія, на думку следчых, належаць Мантэсінасу і былі адкрытыя на імёны падстаўных асобаў. Магчыма, што нешта падобнае, толькі ў меншых памерах, адбылося і ва Угандзе.

Летась парламент Уганды хацеў расследаваць пакупку ў Беларусі няспраўных верталётаў. Аднак угандыйскім дэпутатам, якія хацелі наведаць Беларусь, адмовілі ў візах.

Алесь АБРАМОВІЧ, БелаПАН.

# З Расіі на Захад у цыстэрне

У Брэсце беларускія памежнікі прадухілілі спробу незаконнага перасячэння мяжы нелегальнымі мігрантамі, у прыватнасці, грамадзянамі В'етнама. Пры аглядзе таварнага цягніка, які ехаў з Расіі ў Заходнюю Еўропу, пагранічны нарад здолеў знайсці ў цыстэрне, запоўненай вадкасцю, в'етнамцаў. Хутчэй за ўсё ім пасля няўдачнага падарожжа прыйдзецца вяртацца ў Расію.

Філіп ЕЛЬСКІ

# Байкот дэкрэта №8

Кіраўніцтва незарэгістраванай у мінюсце Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў (НДА), якая аб'ядноўвае звыш 500 арганізацыяў «трэцяга сектара», не збіраецца падпарадкоўвацца дэкрэту №8 «Аб некаторых захадах па ўдасканаленні парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі». Рашэнне байкатаваць выкананне «антыканстытуцыйнага» дэкрэта 22 сакавіка прыняло Выканаўчае бюро НДА.

23 сакавіка на сустрэчы з журналістамі старшыня Выканаўчага бюро Асамблеі Юрась Зянковіч заявіў, што дэкрэт №8 ставіць крыж на існаванні «трэцяга сектара» ў Беларусі ды супярэчыць цэламу шэрагу палажэнняў нават лукашэнкавай Канстытуцыі 1996 года. Таму Асамблея НДА збіраецца звярнуцца ў Канстытуцыйны суд праверыць адпаведнасць нарматыўнага акта Канстытуцыі. НДА мае намер перакласці дэкрэт на замежныя мовы, каб праз міжнародныя структуры дабіцца ягонага апратэставання.

Больш за тое, з дапамогай КНГ АБСЕ Асамблея НДА мяркуе правесці «круглы стол» з нагоды з'яўлення дэкрэта і выпрацаваць агульную тактыку дзеянняў «трэцяга сектара».

Рыгор БУЯН

# За права заваліць галоўнага казла

22 сакавіка ў мінскім парку Чалюскінцаў адбыўся прымеркаваны арганізатарамі да 10-годдзя НАКа міжнародны турнір па даміно «Забі казла», удзел у якім узялі даміношнікі з Беларусі, Чэхіі, Францыі і Летувы.

Па выніках сталічных спаборніцтваў другое месца дасталося французу, а першае і другое – беларусам. Першынстваваўшы атрымаў ліцэнзію на права заваліць самага галоўнага казла.



Арганізатары кажуць, што «турнір па забіванні казла адбыўся, паказаўшы, што перавага не на ягоным баку».

Анатоль КАЗЛЮКЕВІЧ

# Советник президента представил дочь

В Минске прошел концерт пианистки Рюйя Танер, уроженки Северного Кипра. Она является постоянно концертирующей солисткой ведущих оркестров в Турции, Бельгии, Азербайджане, Македонии, Бахрейне. Организации концерта способствовало посольство Турецкой Республики в Беларуси. Представленная минчанам и гостям белорусской столицы концертная программа пианистки включена в тур по Америке с филармоническим оркестром Сараево.

Однако интерес к гостям из Северного Кипра был вызван не только личностью молодой пианистки. Сопровождавший ее отец, господин Ялмаз Танер, не только известныq собиратель фольклора, но и советником президента Турецкой Республики Северного Кипра Рауфа Денкташа. По словам Я.Танера, концерт его дочери в Минске стал первым шагом в деле установления культурных связей между народами двух стран. Планируется проведение в Минске фотовыставки президента Р.Денкташа. Он известен и как фотохудожник. Установлению двусторонних связей будет способствовать и создаваемое общественное объединение дружбы и сотрудничества.

Василий ЯКОВЛЕВСКИЙ

# Народ і ўлады ў Дзень Волі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Людзі таньчылі і спявалі песні (жанчыны сталага веку – народныя, дзяўчаты – Н.Р.М.). Грузавікі і аўтобусы з узмоцненымі атрадамі міліцыі, схаваныя ў дварах Верхняга горада, на той час усё ж ад'ехалі. А вось дзесяткі міліцэйскіх вартаў дзяжурылі на навакольных вуліцах да самых прыцемак.



Асобна Дзень абвяшчэння БНР адзначыла на вуліцах Мінска Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ. Ейная акцыя распачалася прыкладна апоўдні каля Галоўпаштамта, што блізу плошчы Незалежнасці (патрапіць на яе саму было немагчыма, яна ахоўвалася вялікімі сіламі). Адбыўся адзін цікавы эпізод: да прысутнага там міністра ўнутраных справаў падышла кабета, павіншавала са святам і працягнула ружу, абвязаную бел-чырвона-белай стужкай. У.Навумаў павіншаваў жанчыну ў адказ, ружу ўзяў, а вось стужку вярнуў. Пасля каля 200 чалавек пад бел-чырвона-белымі сцягамі, скандзіруючы «Жыве Беларусь!», рушылі адтуль па праспекце Скарыны ў бок станцыі метро «Кастрычніцкая». Калону, якая ішла па ходніку, амаль такія ж па колькасці міліцэйскія шэрагі з дубінкамі напагатове спынілі за некалькі дзесяткаў метраў ад падземнага пераходу каля ГУМа. Сустрэўшы такую перашкоду, маніфестанты разышліся святкаваць Дзень Волі па хатах.

25 сакавіка святкавалі 83-ю гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і ў іншых беларускіх гарадах. Найбольш масава ў Гродне. Улады забаранілі правядзенне святочнай акцыі, як тое прасілі заяўнікі, на цэнтральнай плошчы Леніна і прапанавалі парк 40-годдзя камсамола. Аднак прыкладна 2.000 гарадзенцаў, як і менчукі, правялі Дзень Волі годна: калона, пільнаваная трыма сотнямі міліцыянтаў, прайшла па выбраным самастойна маршруце да Новага замка. Інцыдэнт адбыўся толькі адзін: яшчэ да пачатку акцыі быў збіты і затрыманы журналіст гродзенскай газеты «Біржа інфармацыі» З. Ягораў. Пры гэтым міліцыянты адабралі ў яго камеру, потым зламалі дыктафон. У «Аўтазаку» журналіста трымалі ў аддзяленні для сабакаў. Арганізатары акцыі мяркуюць, што асноўныя затрыманні перанесеныя на сёння. А ў Вялікай Бераставіцы, што ў Гродзенскай вобласці, на Дзень Волі з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі і насценныя надпісы «Жыве Беларусь!»



Фота Ул. ШЛАПАКА



На Магілёўшчыне святочныя акцыі з нагоды Дня Волі прайшлі ў Бабруйску. На тутэйшай плошчы Перамогі сабраліся паўтары сотні бабруйчан: усё прайшло без эксцэсаў. Ранкам 25 сакавіка адбыўся мітынг у Наваполацку, таксама санкцыяваны мясцовымі ўладамі. А вось вынікам святкаванняў у Брэсце сталі пяцёра затрыманых апазіцыянераў, у Гомелі затрыманы двое. У Жлобіне на пікет прыйшлі 300 чалавек, у Баранавічах – 200. Святочныя мерапрыемствы прайшлі таксама ў Лідзе, Віцебску, Пінску, Мазыры і ў шэрагу іншых гарадоў Беларусі.

Наступнай маштабнай вулічнай акцыяй апазіцыі стане Чарнобыльскі Шлях, які традыцыйна будзе наладжаны 26 красавіка, гэтым разам з нагоды 15-ай гадавіны чарнобыльскай трагедыі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Наша свята на пражскім бруку

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У.Арлоў на просьбу прысутных прачытаў сваё славутае і не перастаўшае быць актуальным дагэтуль эсэ «Незалежнасць».

Самым галоўным і сімвалічным момантам свята стала наведванне пражскіх Альшанскіх могілак, дзе пахаваныя першы прэзідэнт БНР Крэчэўскі і яшчэ адзін яе кіраўнік Захарка.

Тут таксама знаходзіцца магіла вядомага нашага спевака Забэйды-Суміцкага. Жыхарка Прагі Анастасія Булыга, якая была падчас вайны ў Саюзе беларускай моладзі, а пасля апынулася на эміграцыі, была дужа ўсцешаная тым, што цяпер на Альшанскіх кладах кветкі на магілах пахаваных тут беларусаў, у тым ліку дзеячаў БНР, ляжаць заўсёды і бываюць часта людзі. Яна згадала той час, калі была адзінай, хто даглядаў гэтыя магілы. Тады пасля вайны гэта даводзілася рабіць збольшага ўпотай, бо могілкі пільнаваліся КДБ, каб выявіць беларускую эміграцыю ў Празе.

Цяпер жа ўсё інакш – свята тут адзначаецца свабодна ды яшчэ пры спрыянні муніцыпальных пражскіх уладаў. На жаль, не так у гістарычнай пераемніцы БНР – Рэспубліцы Беларусь. І тое мусіць быць выпраўлена. Пра гэта сказаў у інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ прама на Альшанскіх могілках трэці спікер новай Беларусі С.Шарэцкі:

— Для нас Дзень Волі самае галоўнае свята, дзе б хто ні быў: ці ў Вільні, ці ў Празе, ці ў Мінску. Гэта ці не самая важная дата ў гісторыі Беларусі ў мінулым стагоддзі. Каля магілы першага прэзідэнта БНР Пётры Крэчэўскага – пачуцці асаблівыя. Дужа хочацца, каб 25 сакавіка адзначалася беларусамі ў Беларусі як след – гэта значыць, на дзяржаўным узроўні.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# «Это агония правящей власти...»

*Окончание, начало на стр.1*

Я обсуждала с сыном эту тему, он хорошо понимал ситуацию. И сказал, что снесет все, что выпадет на его долю, убеждал меня продолжать публикации, работать над книгой мемуаров.

Было несколько вариантов воздействия, мы о них знали, но развитие такой ситуации ускорил звонок моих друзей из Москвы в связи с участием в передаче российского ТВ по фактам многочисленных исчезновений, таинственных смертей в нашей республике. Ведь я единственная из всех, попавших в такую беду, кто прошел этот путь и может говорить. Шли переговоры и переписка на эту тему. Это ускорило подготовку провокации, был избран быстрый и простой способ моей блокировки и предупреждения.

Вообще, провокации против сына возобновились в конце прошлого года, когда в Лондоне я стала активно общаться с прессой и влиятельными политиками, приезжающими сюда из России и нашей республики. В декабре, в своем интервью газете «Витебский Курьер», я сказала, что меня пригласили работать в избирательный штаб одного из предполагаемых претендентов на пост президента.

Сразу же после публикации, а она содержала материал о хищениях, моим друзьям позвонили доброжелатели и сказали, что мне не нужно этого делать, что такой шаг будет стоить многого.

Затем в НАШАЙ СВАБОДЗЕ был опубликован ряд фактов – о золотых монетах сомнительного качества, особенностях формирования золотовалютных резервов Нацбанка Беларуси на 500 млн. долларов.



Они вызвали сильный переполох в среде тех, кто на этом заработал и зарабатывает огромные деньги. Особенно разрушительна для страны сделка на 500 млн. долларов, которая осуществляется сейчас.

Ко мне в Лондон сразу же приехали доброжелатели из республики и тоже просили не писать подобных статей: народ этого не поймет, а у получивших огромные деньги власть имущих рычаги влияния беспредельны.

Позвонили мои родственники, сказали, что им поступают тревожные предупреждения, готовится провокация, будет изыскиваться любой предлог.

СМИ в стране блокированы, многие имеют своих хозяев, а вот персональные интернет-сайты власть пока под жесткий контроль не взяла. Я очень о многом в них пишу, принимаю участие в политических форумах. На Украине убит журналист именно такой, никому не подконтрольной интернет-газеты. Это огромный политический рычаг влияния на мнение посетителей сайта, и многих, кто хочет быть в тени, это очень раздражает.

Недавно на радио «Свобода» прозвучало мое интервью в связи с отказом Британии выдать меня. В интервью названы конкретные фамилии сотрудников правоохранительных структур, КГБ, которые оказывали влияние на ход моего дела, ареста. Мне вновь позвонили и просили не вспоминать священную корову государства.

Тем не менее, мы с одним из журналистов начали готовить серию статей, говорили по телефону. В прошлую пятницу он попал в аварию, поначалу мы решили, что это случайность. Но после ареста сына думаю иначе.

Враги избрали самый легкий вариант — подбросили пакет с наркотическим веществом. Этот мелкий фокус пытались проделать и в моей квартире при повторном обыске. Первый обыск не дал им результатов, все мои бриллианты и драгоценности были хорошо исполненной бижутерией.

Это вызвало шок у власти — нечего было показать в телеэфире народу. Тогда они провели повторный обыск. Мой сын присутствовал при этом. Обыск шел одновременно во всех комнатах в нарушение законодательства, сын увидел, как пакет с белым порошком пытались оставить в моей комнате, и поднял шум. Попытка провокации не удалась.

На повторный обыск приходили с камерой и отсняли бижутерию. Показали по ТВ, сообщив, что найдено 100 изделий из металла желтого цвета. Народ не особо удивился, как на то и было рассчитано. Назавтра адвокаты и я уточнили у следователя, откуда появилось столько золота, почему это золото не указано в протоколе обыска, ведь такого факта просто нет.

Следователь ответил, что действительно такого факта нет, никто и не говорил, и не заявлял по ТВ, что изделия из золота. Мы дали информацию, что изделия из металла желтого цвета, т. е. ваша бижутерия, а что подумал народ, это его и ваши проблемы. Ухищрения подобного рода повторялись практически во всех громких делах.

Меня таким образом просто пытаются заставить молчать.

***— Но зачем, Тамара Дмитриевна, властям публиковать сообщение о задержании через ТВ? Вы и без теленовостей об этом узнали бы. Для кого подан такой сигнал?***

— Уже де-факто стартовала избирательная президентская гонка. И арест моего сына это, с одной стороны, акция запугивания всех перед выборами, и акция мести лично мне моими врагами. С другой, Беларусь занимает третье место в мире по количеству осужденных. Это главное достижение правящей власти. Люди привыкли к арестам и судам, не реагируют уже вообще никак на это явление. Оно стало обыденностью. Коррупция избрана рычагом управления страной. Сегодня в вопросах налогообложения действует более 3,5 тысяч инструкций, указаний, пояснений, ведомственных толкований и т. д., а по бухучету — более 4,5 тысячи документов. Их просто никто из субъектов хозяйствования не в состоянии применить верно, поэтому 90% проверенных структур допускают нарушения. А власть решает, в зависимости от лояльности к ней, в уголовную или хозяйственную законодательную плоскость перевести материалы ревизий и проверок. Друзья Лукашенко, например, просто платят штраф, а политические оппоненты за подобные же факты сидят в камерах. Например, А.Климов из-за незначительных завышений объемов строительства на объекте, где еще не делалась окончательная сверка расчетов, сидит в тюрьме. А в это время были опубликованы данные о том, что по министерству архитектуры и строительства потери от недостач, хищений денежных средств и ТМЦ выросли более, чем в 17 раз и достигли 2.797,3 млн. рублей. Но министра повысили в должности, он стал вице-премьером, его зам. стал министром и т. д. Никого из ответственных лиц этого ведомства Лукашенко не пытался арестовать. Таким методом управляется страна. Каждый завтра может быть в камере.

Поэтому для запугиваний всего населения, чтобы не забывали, и производят съемки, избирают тех людей, которые известны в стране, — власти нужен эффект.

Это знак, что так будет с любым, кто думает иначе или вообще просто задумывается над тем, к чему пришла страна в итоге семилетнего президентского правления А.Лукашенко.

Положение в экономике ужасающее. Спасение только в очередном повышении цен, а предельная черта терпения существует и тут.

Собственно нарушения законодательства, коррупция, взятки, хищения государственной собственности на сотни миллионов долларов власть не интересуют. Подобных, уже выявленных фактов, документов в столе у Лукашенко, в прокуратуре хоть пруд пруди. Но возбуждение уголовных дел, преследования начинаются только против тех, кто недоволен проводимой политикой, принимаемыми решениями, кто начинает об этом говорить обществу.

***— Может ли арест вашего сына стать средством шантажа, способным изменить ваши позиции?***

— Сегодня мне позвонили и сказали, что сына сильно избили, подвергают пыткам. Адвокат в выходные дни не может посещать сына в изоляторе и видеть картину реально.

И даже если увидит, он не имеет права говорить. Я там была и знаю все нравы этого государства в государстве. Когда мои адвокаты сказали лишь о том, что моя камера очень сырая, их обвинили в том, что они разгласили тайну следствия.

Но есть мнение, что мне такие сведения сообщают не случайно, чтобы сломить меня, заставить молчать. Я хочу повторить, что мой сын добровольно согласился стать жертвой. Это агония правящей власти, им осталось не так много, мы выдержим и выстоим.

***— Как вы отреагируете на такую беду, которую приходится переживать вашей семье?***

— У меня есть огромное желание вернуться, я обсуждаю эту проблему со своими друзьями. Может быть пребывание в камерах уже целыми семьями принесет Александру Лукашенко хоть временное наслаждение. Ярче заблестят ордена на груди его сыновей, которые он им нацепил.

У меня, как и у тысяч других семей, попавших в подобную ситуацию, есть только один способ реагирования: делать все для смены власти, финиш ее правления уже на горизонте.

**Интервью взял Константин ТАРАСОВ**

# Шпіёнскія жарсці

## Амерыканская контрразведка шукае новых расійскіх шпіёнаў у дзяржаўных структурах

*Як паведаміў амерыканскі інфармацыйны сайт Drudgereport.com, спасылаючыся на артыкул у часопісе U.S News & World Report, што выйдзе сёння, супрацоўнікі контрвыведкі ЗША прыйшлі да высновы – на Расію працуе яшчэ як мінімум адзін высокапастаўлены шпіён.*





Падчас вывучэння матэрыялаў расследавання шпіёнскага скандалу, які пачаўся з арыштам ФБРаўца Роберта Хансана, стала ясна – адзін Р.Хансан столькі шкоды амерыканскім нацыянальным інтарэсам зрабіць не мог. Таму цяпер робіцца актыўныя высілкі, каб знайсці яшчэ аднаго «Шціrліца».

Пошукі новага шпіёна будуць весціся супольна супрацоўнікамі Цэнтральнага разведвальнага агенства і Федэральнага бюро расследаванняў. У ім будуць браць удзел каля 400 агентаў, якія маюць абсалютна бездакорную рэпутацыю.

Новыя праверкі пройдуць у самім ЦРУ, Агенцтве нацыянальнай бяспекі і дзярждэпартаменце. Чакаецца, што ўвесь персанал, які мае доступ да сакрэтнай інфармацыі – а гэта некалькі тысяч чалавек, – будзе правераны на дэтэктары хлусні. Раней *The Washington Post* ужо паведамляла, што правяраецца на дэтэктары будуць таксама каля 500 агентаў ФБР, у тым ліку больш за 150 кіраўнікоў найвышэйшага звяна..

Кампанія *CNN* паведаміла, што пасля апошніх падзеяў амерыканскія спецслужбы вырашылі скарэктаваць сваю дзейнасць на тэрыторыі былога СССР, павялічыўшы колькасць агентаў у іншых былых савецкіх рэспубліках, перш за ўсё ў Казахстане і Грузіі.

Тым часам, «размен» дыпламатамі Расіі і ЗША, пра які мы пісалі ў пазамінулым нумары, адбыўся. Праўда, амерыканцы паменшылі колькасць непажаданых асобаў удвая і замест сотні дыпламатаў-шпіёнаў абмежаваліся паловай.

Апроч таго, дарадца прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Кандаліза Райс паведаміла, што Расіі «параілі» да 1 ліпеня скараціць колькасць прадстаўнікоў ваеннага аташата на 46 асобаў.

На адэкватныя захады пайшла і Расія. Чатыры амерыканскія дыпламаты абвешчаныя персонамі нон грата і мусяць на працягу 10 дзён пакінуць краіну, яшчэ 46 далі тэрмін да лета на заканчэнне справаў і грунтоўныя зборы.

Расійскія сродкі масавай інфармацыі пішуць, што гуртовы абмен шпіёнамі наўрад ці прынясе карысць абедзвюм краінам. Ніводная з іх не перапыніць свых высілкаў па «адсочванні» дзеяння іншай, і абедзвюм краінам цяпер давядзецца нанова будаваць сваю разведвальную дзейнасць там, адкуль былі дэпартаваныя іхнія агенты.

Дарэчы, былыя савецкія «рыцары плашча і кінжала» распавялі кампаніі *BBC*, што «вылічыць» асобы замежных шпіёнаў у дыпламатычных прадстаўніцтвах і карэспандэнцкіх пунктах не прадстаўляе вялікай цяжкасці. Можна адсачыць рабочы графік падазронай асобы, праверыць спідометр машыны, прааналізаваць паводзіны на дыпламатычных прыёмах і г.д. Часта выведка выкарыстоўвае адны і тыя ж «пасады прыкрыцця» для розных шпіёнаў на працягу многіх гадоў. Гэта дае падставы ведаць пра з'яўленне новага шпіёна яшчэ да ягонага прыезду.

Кожная краіна ў асноўным ведае, хто з дыпламатаў-замежнікаў чым займаецца. Але гэта не азначае неадкладнай дэпартацыі. Проста контрвыведка імкнецца адсачыць усе дзеянні «дыпламата», каб той не нарабіў вялікай шкоды нацыянальным інтарэсам. Таму масавая высылка расійскіх дыпламатаў – больш палітычны крок, чым сапраўдная патрэба амерыканскіх спецслужбаў. ЗША чарговы раз прадэманстравалі Расіі, «хто ў хаце галоўны», каб пазбавіць ілюзіяў і беспадстаўных мараў накконт «звышдзяржавы».

Амерыканская газета *The Christian Science Monitor* піша: дэпартацыя расійскіх шпіёнаў з'яўляецца недвухсэнсоўным пасланнем пра тое, што Злучаныя Штаты не пацерпяць «старой» Расіі – савецкіх часоў або нават імперскай Расіі.

Факт, што Расія дагэтуль займаецца шпіянажам у масавым маштабе, дэманструе яе няздольнасць стаць квітнеючай дэмакратыяй за тыя дзесяць гадоў, што прайшлі пасля заканчэння «халоднай вайны».

Гэтая краіна, канешне, мае сур'ёзны патэнцыял і вартая павагі, нават калі і займаецца шпіянажам. Але трэба прызнаць услед за прэзідэнтам Джорджам Бушам, што дні, калі паважалася гіганта песціі, прайшлі назаўсёды.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Сканаў стваральнік Тома і Джэры

Адзін з самых вядомых мультыплікатараў сучаснасці Уільям Ханна сканаў ва ўзросце 90 гадоў у сваім доме ў Лос-Анджэлесе. Вядомыя ўсяму свету стасункі хітрага мышаняці Джэры і няўдачлівага ката Тома стваралі У.Ханна і атрымалі сем Оскараў. Уільям Ханна нарадзіўся ў Нью-Мексіка ў 1910 годзе. Ён пачаў сваю кар'еру як кінамеханік, але ў часе Вялікай дэпрэсіі апынуўся сярод беспрацоўных і пераехаў на захад Амерыкі, дзе яму пашанцавала ўладкавацца на адну з мультыплікацыйных студыяў. У 1937 годзе яго запрасіла на працу галівудская кінакампанія «Метро Голдуін Майер». Тут ён пазнаёміўся з Джозефам Барбера, і яны сталі неразлучнымі сааўтарамі. Іх першая сумесная праца і паклала пачатак серыялу «Том і Джэры». У 1957 годзе пачала дзейнічаць іх уласная мультыплікацыйная студыя «Ханна-Барбера прадакшн». Уільям Ханна і Джозеф Барбера разам стварылі болей за трыста мультфільмаў, якія радуюць і будуць радаваць мноства пакаленняў дзяцей і дарослых ва ўсім свеце.

**Адам ВАРАНОВІЧ**

## Чалавецтва мела розных продкаў

На поўначы Кеніі ў раёне ракі Ламекві экспедыцыя амерыканскіх і кенійскіх археолагаў знайшла астанкі продка чалавека, якія маюць узрост каля 3,5 мільёнаў гадоў. Дапатопныя астанкі належалі тром дзесяткам чалавекападобных істотаў невядомага сусветнай навуцы віду. Гэтае адкрыццё можа прымусіць вучоных да перагляду тэорыі паходжання чалавека ад аднаго агульнага продка. На думку археолагаў, якія даследавалі знаходку, гэтыя істоты могуць лічыцца продкамі сучаснага чалавека ў такой жа ступені, як аўстралапітэк афарскі, названы Люсі. Апошняй ужо прысвечаная вялікая колькасць навуковых і навукова-папулярных кніг, у якіх навукоўцы спрабуюць прасачыць біялагічныя сувязі *Homo sapiens* з прашчурамі ў пазатысячным калене. Люсі была знойдзеная ў 1974 годзе ў Эфіопіі і лічылася найстаражэйшым папярэднікам чалавека на Зямлі. Даследнікі лічаць, што адшуканы імі кенійтроп мусіць разглядацца сама меней як сучаснік Люсі. З гэтага вынікае, што адкрыты імі від, які адрозніваецца ад аўстралапітэка афарскага, дае падставы меркаваць пра некалькі ліній развіцця чалавецтва, а не пра эвалюцыйную адну, як было прынята лічыць раней. Некаторыя лініі развіцця чалавекападобных у чалавека пераваліся, і важна ведаць, чаму перамог той від, з якім звязаная біялагічная гісторыя сучаснага чалавецтва.

**Юрась МЯЛЕШКА**

## Залаты запас Слабадана Мілошавіча

Швейцарскія ўлады выявілі 100 кілаграмаў нелегальнага золата югаслаўскага паходжання. Зараз высвятлецца пытанне, ці належала гэтая партыя каштоўнага металу былому прэзідэнту Югаславіі Слабадану Мілошавічу. Па словах спецыялістаў з міністэрства эканомікі, гэтая партыя золата, ацэненая ў 875 мільёнаў доляраў, прадазалася ў Швейцарыі пачынаючы з сярэдзіны 1999 года. Улады Швейцарыі намагаюцца высветліць, куды накіроўвалася частка выручкі. Другая частка замарожаная ў банках па просьбе югаслаўскага боку.

У гэты ж час пракуратура Бялграда пачала расследаванне сцвярджэнняў аб адпраўцы С.Мілошавічам 173 кілаграмаў золата ў Швейцарыю ў мінулым годзе, а таксама іншыя мяркуемыя эканамічныя злачынствы экс-кіраўніка дзяржавы. Па звестках, якія выходзяць з дасведчаных журналісцкіх колаў, грошы ад продажу нелегальна вывезенага югаслаўскага золата накіроўваліся галоўным чынам на Кіпр і ў Грэцыю.

**Віктар ТУМАШ**

# Международная система правосудия против деспотов

**Кеннет РОС,**
исполнительный директор организации Human Rights Watch

*В последние годы зарождающаяся международная система правосудия начала подрывать старую эру тиранов и мучителей. Совсем недавно они совершали свои преступления безнаказанно, дубинкой подчиняя себе юридическую систему своих стран. Сейчас трибуналы по военным преступлениям были созданы для Руанды и бывшей Югославии, национальные суды вынесли обвинения деспотам других стран, и вскоре будет создан постоянно действующий Международный Суд Преступлений.*

Тем не менее, международное правосудие обвиняется в том, что оно – элитистское и недемократическое. Критики утверждают, что доморощенное национальное правосудие заменяется отдаленными, неконтролируемыми международными трибуналами. Они риторически спрашивают, почему иностранные прокуроры должны принимать критические решения о справедливости, затрагивающие страны, с которыми у них нет никаких связей.

Но опыт показывает, что вместо того, чтобы замещать исполнение национального закона, международное правосудие начинает подталкивать местных прокуроров, скорее усиливая, а не заменяя локальные усилия.

Самым демонстративным в этом отношении является дело бывшего диктатора Чили Августо Пиночета. Он уехал из Чили в Англию в октябре 1998 года, уверенный в том, что сохранит свою безнаказанность до конца дней. Эта уверенность содержалась в двух юридических подарках, которые он сделал самому себе – амнистия за преступления и юридическая неприкосновенность пожизненного сенатора. Но как только Пиночет был арестован в Лондоне по обвинениям, выдвинутым испанским судом, его заботливо созданный ореол безнаказанности начал распадаться.

Арест Пиночета и позднейшее принятие этого ареста Палатой Лордов привели к юридическому признанию идеи обвинения бывшего диктатора. И действительно, пытаясь обеспечить возвращение Пиночета, официальные лица Чили впервые приняли обещание судить его в местных судах. В результате, когда шестнадцать месяцев спустя Пиночет, по состоянию здоровья, вернулся в Чили, он столкнулся с воскрешенными судебными обвинениями, выдвинутыми жертвами его правления и оставшимися в живых. Суды Чили дали этим искам ход, сняв с Пиночета его парламентскую неприкосновенность и подписав правовые претензии в обход его амнистии.

Из-за ухудшающегося здоровья Пиночет может все-таки избежать наказания. Но эффект этого дела в международном правосудии обеспечил тот факт, что по крайней мере о Пиночете будут вспоминать по обвинениям в Чили, а не по безнаказанности, которую он пытался сохранить.

Другим примером позитивного влияния международного правосудия является Чад. В феврале 2000 года по иску жертв Сенегал вынес обвинение и арестовал бывшего диктатора Хиссена Хабре, который скрывался в этой стране. Дальнейшая судьба этого дела в Сенегале остается неясной, но оно воскресило когда-то умиравший вопрос правосудия в Чаде. В октябре прошлого года семнадцать человек выдвинули юридический иск в Чаде за убийства, «исчезновения» и пытки против бывших членов секретной службы Хабре.





Сегодняшний президент Чада Идрисс Деби недавно впервые встретился с потерпевшими и обещал поддержать их иски. Он также поклялся очистить свою администрацию от агентов секретной службы Хабре и предоставить доступ к файлам комиссии, которая проводила расследование правления Хабре.

Международная система по правам человека играет похожую роль в поддержке национальных прокуроров. Например, в Гватемале факты, найденные комиссией ООН, привели к серьезному правовому расследованию деятельности бывшего президента Риоса Монта, связанной с преступлениями против гуманности, совершенными в ходе его кампании по «выжиганию земли» против оппонентов, проведенной в 1982-83 гг. Поправка к Конституции Аргентины, дающая международным соглашениям конституционную силу, лежит в основе исторического решения аргентинского суда, принятого в этом месяце, отменяющего амнистию, объявленную под военным давлением в 1980 году за преступления, которые были совершены во время «грязной войны» в 1976-83 годах.

Международный Суд Преступлений — трибунал, с потенциальной мировой юрисдикцией, направленной против геноцида, военных преступлений и преступлений против гуманности – создан на сравнимой каталитической теории. Он имеет юрисдикцию только в тех случаях, когда национальные правительства не проводят расследования и, при необходимости, не выносят обвинения согласно справедливости.

Конечно, национальное правосудие иногда не срабатывает – из-за недостатка воли или способности – и тогда должно вмешаться правосудие международное. Например, в Индонезии угроза международного правосудия, касающаяся беспорядков в сентябре 1999 года в Восточном Тиморе, привела к тому, что правительство Индонезии опубликовало список 22 подозреваемых. Но даже полтора года спустя правительство Индонезии так и не вынесло ни одного обвинения. Возможно международный трибунал остается последней надеждой в этом деле.

Подобным образом Трибунал против военных преступлений в Югославии, находящийся в Гааге, настаивает на аресте бывшего президента Югославии Слободана Милошевича и других подозреваемых. Жертвы Милошевича – в основном этнические боснийцы, албанцы и хорваты – не очень верят в то, что доминируемое сербами югославское правительство, выросшее из десятилетия этнических войн, когда-либо сможет вынести справедливое решение по их делу.

Белград также не дает оснований для доверия. Он говорит о выдвижении обвинения Милошевичу за коррупцию или убийство нескольких сербских политических оппонентов, но не за массовую жестокость, проявленную к другим этническим группам. Его видимое желание выдвинуть обвинение Милошевичу в основном вызвано угрозой международного правосудия. Но половинчатое обвинение, которое он готов рассмотреть сейчас, только подчеркивает необходимость вмешательства международного правосудия. Доноры должны приостановить всю негуманитарную помощь Белграду, пока он не сдаст Милошевича трибуналу в Гааге.

Опыт показывает, что международное правосудие не ставит под угрозу правосудие национальное; что оно стремится стать не заменой, а поддержкой. В любом случае, это развивающееся партнерство между национальным и международным правосудием означает, что тираны и мучители – бывшие и будущие – уже не смогут получить пожизненную неприкосновенность.

# І гэта ёсць «шчыры» футбол?



Свой «шчыры футбол» Эдуард Малафееў пачаў прапагандаваць яшчэ гадоў дваццаць назад. Тады яму шанцавала

У нічыю з лікам 0:0 завяршыўся ў Кіеве адборачны матч да чэмпіянату свету па футболе 2002 года паміж зборнымі Украіны і Беларусі. Дагэтуль сапернікі, якія выступаюць разам у адной групе, у трох стартавых матчах набралі аднолькавую колькасць ачкоў і ўвогуле мелі ідэнтычныя паказчыкі па ўсіх футбольных параметрах. Гэты статус-кво захавалі яны і зараз, падзяляючы другое і трэцяе месцы ў пятай групе, лідэр якой маладая каманда Польшчы пасля нечаканай для ўсіх перамогі ў гасцях над нарвежцамі – 3:2 – павялічыла свой адрыў ад беларусаў і ўкраінцаў ужо на тры ачкі (Польшча – 10 ачкоў, Беларусь і Украіна – па 7, Уэльс – 3, Нарвегія, Арменія – па 2).

У стратэгічным плане нічыю для нашых спартсменаў можна ацэньваць як поспех. Чаму не марыць аб такім дасягненні на выездзе? Хутчэй за ўсё толькі дзве з трох геаграфічных суседак з усіх шасці зборных могуць разлічваць на паездкі ў Карэю і Японію. Таму вось гэтыя невыразныя выніковыя нулі на табло стадыёна нацыянальнага спартыўнага комплексу «Алімпійскі», які сабраў у суботу 80 тысяч гледачоў, занесены ў актыў беларускай зборнай. Але вось якасць гульні з нашага боку не вытрымлівае аніякай крытыкі. Адзіны з футбалістаў, да якога няма прэтэнзіяў, быў варатар Генадзь Туміловіч. Не ведаю, як будзе складвацца надалей яго спартыўная кар'ера, але згуляць яшчэ раз выдатна, як два дні таму, практычна не можна. Галкіпер, які пакуль яшчэ не мае клуба і трэніруецца самастойна, выратаваў беларускі футбол ад паражэння з лікам, як мінімум – 0:1, і, як максімум, — 0:4. Відавочна, што праблема 30-гадовага Туміловіча з пошукам клуба хутка завершыцца. Такі трыумф дарагога каштуе!

А што прадэманстравалі астатнія дзесяць майстроў, якія няблага ўладкаваліся ў беларускіх, расійскіх і іншых замежных клубах? Амаль нічога. І калі «абыякавасць» да выніку сустрэчы дынамаўцаў у Кіеве Валянціна Бялькевіча ды Аляксандра Хацкевіча, дарэчы, беларусаў па пашпарце, можна было прадбачыць, дык вельмі нізкі ўзровень гульні астатніх здзівіў. З усяго складу цяперашняй зборнай каманды ў беларускім чэмпіянаце гуляюць толькі Раман Васілюк («Славія») і Андрэй Мілеўскі («Шахцёр»). На жаль, яны па сваім майстэрстве пакуль не падыходзяць у нацыянальную каманду – гэта нягледзячы на тое, што, напрыклад, Васілюк з'яўляецца лепшым бамбардзірам – 31 забіты мяч. У астатніх ігракоў узровень майстэрства вышэй за іх, але і ён невысокі па еўрапейскіх мерках, і як яшчэ ў будучым змогуць «прыбавіць» тыя ж Гурэнка, Рамашчанка ды іншыя легіянеры, я асабіста не бачу.

Увесь час, калі на галоўных трэнерскіх ролях знаходзіцца Эдуард Малафееў, побач з ім ідзе гаворка аб так званым «шчырым» футболе. Што гэта такое, наўрад ці можа растлумачыць і сам мэтр. Гэта нешта накшталт славутай у свой час думкі «эканоміка павінна быць эканомнай». Усё ж мы паспрабуем знайсці галоўную ідэю гэтай «шчырасці». Па-першае, адданасць гульні, ідэі трэнера: адзін за ўсіх і... наадварот... Па-другое, футбол павінен, перш за ўсё, існаваць для прыхільнікаў і гледачоў; трэба працаваць на полі на ўсю моц.

Што мы з гэтага ўбачылі ў Кіеве? Нічога! Думаць аб выйгрышы можна колькі хочаш, але зрабіць гэтак значна цяжэй. Адзіны больш ці менш востры момант у варотаў сапернікаў за ўсе дзевяноста хвілінаў, усяго некалькі вуглавых удараў, дзве жоўтыя картачкі, за «гразную» гульню, выпаданне з ансамбля безумоўных лідэраў Бялькевіча і Хацкевіча, ні адной прыгожай камбінацыі ні каля варотаў украінцаў, ні нават у цэнтры поля – сведкамі чаго вы былі самі.

І на фоне гэтай «шчырасці» прагматызм гульні падапечных Валерыя Лабаноўскага мне паказаўся значна прыемным, і ў гэтым канкрэтным выпадку, зусім не антыфутбольным, як увесь час журналісты спрабуюць падкрэсліць, калі гутарка ідзе аб параўнанні канцэпцыі футбола Малафеева і Лабаноўскага. Якраз антыфутбол хутчэй дэманстравалі госці, а не гаспадары кіеўскага матча.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Злодзеі любяць мастацтва

Апошняе скандальнае выкраданне знанага твора выяўленчага мастацтва адбылося на мінулым тыдні ў Санкт-Пецярбургу. Пасярод белага дня ў зале на трэцім паверсе Эрмітажа злодзей акуратна выразаў з рамы карціну французскага мастака Жана Леона Жэрома «Басейн у гарэме». Прапажы хутка хапіліся, і на некалькі гадзінаў адзін з найвялікшых у свеце музеяў быў зачынены на ўваход і выхад. Але ні крыміналісты, ні кінолагі з сабакамі злачынца і карціну ў Эрмітажы ўжо не адшукалі.

Скрадзеная карціна была напісаная мастаком у 1876 годзе. Яе набыў імператар Аляксандр III для аздобы Анічкава палаца, а ў 1918 годзе падчас нацыяналізацыі «Басейн у гарэме» апынуўся ў Эрмітажы. Па ацэнках мастацтвазнаўцаў кошт карціны складае не менш мільёна долараў. Аднак прадаць гэты твор Жэрома злодзею будзе вельмі складана, бо ўсе вялікія музеі свету маюць копіі гэтай карціны, і яе не выставіш на аўкцыён. Таму спецыялісты па вышуку крадзеных твораў выяўленчага мастацтва мяркуюць, што «Басейн у гарэме» хутчэй за ўсё скралі на заказ.

Жэром не ўваходзіць у лік мастакоў, якія карыстаюцца шырокай папулярнасцю сярод злодзеяў, больш дакладна, сярод заказчыкаў і пакупнікаў скрадзенага. Іхны густ размяркоўвае значнасць мастакоў наступным парадкам. Першае месца займае Пабла Пікасо – па музеях свету скрадзена 290 яго твораў. За ім ідзе Хуан Міро – скралі 260 твораў. Трэцяе месца адведзенае Марку Шагалу – 220 твораў. Далей ідуць Сальвадор Далі, Альбрэхт Дзюрэр, Анры Маціс, Анры Тулуз Латрэк. Прыкладам, у 1944 годзе ў Цюрыху з галерэі Макса Болага злодзеі выкралі сем твораў Пікасо агульным коштам 44 мільёны долараў. Пры гэтым здодзеі скарысталі самую прымітыўную тэхналогію злачынства — залезлі ў галерэю праз падвал суседняга дома.

У выпадку з «Басейнам у гарэме» злодзей таксама дзейнічаў проста, бо Эрмітаж мае недасканалую сістэму сігналіза-



«Басейн у гарэме»

цыі, а старых жанчын-ахоўніц залаў не хапае, бо мала хто згаджаецца працаваць у музеі за 15 долараў у месяц.

Сярод гучных справаў з крадзяжом карцін бачнае месца займае рабаванне па-італьянску. У Рыме мясцовыя злодзеі, апранутыя ў спяцоўкі будаўнікоў, скарыстаўшы рыштаванні, узведзеныя для рэстаўрацыі палаца дэла Канчэрылля, які належыць Ватыкану, скралі з кабінета старшыні Папскай камісіі па культурных каштоўнасцях 14 карцін, у тым ліку карціну Джавані Беліні. Самым буйным рабункам музейных збораў стаў візіт злодзеяў у Бастонскі музей Ізабэлы Гарднер у сакавіку 1990 года. Два злодзеі, пераапранутыя ў паліцэйскіх, на працягу гадзіны выразалі з рамаў дзве карціны Рэмбранта, яго адзіны марскі пейзаж, карціну Манэ, і галоўную каштоўнасць музея – карціну Вермера Дэлфцкага «Канцэрт», пяць малюнкаў Дэга і розную драбязу. Кошт скрадзенага склаў 300 мільёнаў долараў.

Мінулае стагоддзе ўнесла прынцыповыя карэктывы ў гэтую галіну чорнага бізнесу. Карціны пачалі выкрадаць не для продажу, а з мэтай атрымання выкупу. Піянерам стаў невядомы, які ў Генцкім саборы св. Бавона скраў створку «Генцкага алтара», створанага ў сярэднявеччы братамі ван Эйкамі. Выкрадальнік патрабаваў адзін мільён франкаў і паабяцаў у выпадку адмовы знішчыць шэдэўр. Улады не пагадзіліся, і з 1934 года ніхто гэтую створку алтара не бачыў.

Крадзяжы з вядомых збораў выклікаюць грамадскі рэзананс, хоць на справе яны здараюцца нячаста. У дзесяць разоў болей крадуць з цэркваў, касцёлаў і манастыроў, пахаванняў. У Кітаі, прыкладам, нягледзячы на магутнасць таталітарнай улады, за апошнія 10 гадоў разрабавалі болей за 40.000 старажытных пахаванняў. Яшчэ часцей, прыкладна ў 100 разоў часцей, чым музеі, злодзеі наведваюць прыватных калекцыянераў. Міліцыя і паліцыя раскрываюць прыкладна трэцюю частку такіх злачынстваў. Што датычыць цэркваў, дык галоўны аб'ект увагі тут — абразы і розныя рарытэты. З цэркваў былога СССР выкрадзена, па няпоўных падліках, болей за 250 тысяч абразоў, якія бальшынёй патрапілі на рынак гандлю такімі творамі на Захадзе.

У нас на Беларусі няма шырокага рынку гандлю творамі мастацтва па шэрагу прычынаў: мала багатых людзей, а сярод багатых – мала адукаваных, а можа і зусім няма, і любая калекцыя ў нас хутка патрапіць пад нагляд дзяржавы і пагрозу нацыяналізацыі. Усё гэта не спрыяе збіральнікам, але адначасна і не заахвочвае злодзеяў на рызыку. Да таго ж у нас мала музеяў, а ў правінцыйных музеях няшмат экспанатаў, кошт якіх заахвочвае рызыкаваць. Малое знаёмства з імі дасведчаных збіральнікаў не стварае «заказ» на злачынства. Апошнім часам нашы злодзеі найбольш праяўляюць сябе ў рабаванні старажытных курганоў, вышукваючы чарапы. Няўважлівасць дзяржавы да аховы археалагічных помнікаў стварае для іх прававую базу беспакаранасці.



Цэнтральная частка «Генцкага алтара». Левая створка выкрадзеная ў 1934 годзе і знікла

**Аліна ВОЛЬСКАЯ**

# Эх раз, яшчэ раз...

Сёння ў Латвіі, у Рызе і Ліепаі, пачнецца чэмпіянат свету па хакеі ў дывізіёне 1 сярод юнакоў узростам да васемнаццаці гадоў, галоўная мэта якога вызначыць лепшую з васьмі каманд, якая ў наступным сезоне і выступіць у вышэйшай лізе, дзе непасрэдна разыгрываюцца медалі.

Усе зборныя напачатку разбіты на групы (на чатыры ў кожнай), і па дзве мацнейшыя выйдуць у наступны этап, фінал, і толькі яго пераможца трапіць у «вышэйшы» свет.

У мінулым сезоне зборная Беларусі з трэскам вылецела з яго, устанавіўшы наўрад ці дасягальны для іншых «рэкорд»: сем параз у сямі матчах, розніца шайбаў 7–63, пройгрыш расіянам – 1:18.

Галоўны настаўнік беларускай моладзі Міхаіл Захараў запэўніў, што вяртанне наверх адбудзецца. Але калі на папярэднім этапе нас чакаюць «сціплыя» ў хакейным сэнсе японцы, датчане і карэйцы, дык далей беларусам могуць перашкодзіць хакеісты з Аўстрыі, Італіі, Казахстана ды Латвіі.

Чэмпіянат адкрыецца сустрэчай каманд Беларусі і КНДР.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 26 марта - 1 апреля

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**Овен.** Для решения многих вопросов за кулисами — не самое лучшее время. Привлекая юридически грамотных лиц к своей деятельности во вторник, вы своевременно обезопасите себя по многим направлениям. В противостоянии вы можете попасть впросак, особенно в среду и субботу. А вот в четверг предпочтительна неформальная обстановка для общения с важными для вас людьми.



**Телец**. Суетливое и не лучшее время для публичных выступлений и важных переговоров, особенно с иностранными подданными и юридическими службами. Трудно держать в себе «правду-матушку», что думаешь — то и говоришь, а это порой неразумно. Если вы хотите заручиться поддержкой влиятельного лица, то можно запланировать встречу на вторник или пятницу.



**Близнецы.** Появляются друзья. Во вторник и четверг любое времяпровождение с ними может оказаться небесполезным. Многочисленные слова и обещания в среду и субботу, как правило, уходят в пустоту или «вызывают на бой». Если встрянете в рабочие конфликты — будете сражаться с ветряными мельницами всю неделю. Хорошо иметь дело с женщинами.



**Рак.** Если вы скрываетесь даже от близких друзей, то это и к лучшему. Но ваше имя на слуху, придется дать весточку. Вероятно увлечение каким-то идеологическим течением. Вы склонны обращаться сейчас к «вечным ценностям», и это можно себе позволить. Желательно не лихачить за рулем с пятницы на субботу, иначе потом придется возмещать ущерб.



**Лев.** Неплохо бы использовать по максимуму дальнюю поездку или общение с деловым человеком, поскольку вы расширяете возможности или поднимаете свой рейтинг. Благоприятное время для заявки о себе, пусть даже скандальной, а также для участия в разного рода компаниях. Если кто-то ищет любовь, то может найти ее рядом, буквально среди друзей.



**Дева.** Если вы потеряли кого-то близкого из виду, то способны опять его найти среди недели и в выходные дни. Двери дома лучше настежь не раскрывать — незваные гости хуже татарина во вторник, среду и субботу. Чтобы не попасть в абсурдную ситуацию, важно вовремя уйти с работы во вторник, хорошо проверив при этом замки или сигнализацию.



**Весы.** На работе намечаются столкновения интересов, споры, в которых даже вам трудно выступить арбитром. Однако появляются виды на помощь из близлежащей страны. Милые встречи, задушевные разговоры с приятным во всех отношениях человеком. Не рекомендуется вести себя нахально или беспечно в вечер на субботу — можно получить отпор.



**Скорпион.** Вы с супругом можете быть вовлечены в общее дело, что способно принести моральное удовлетворение. Финансовая сторона деятельности рискованна. Игры разного толка дорого обходятся. Молодежь способна перетянуть часть средств от вас на себя. Имеет смысл больше времени уделять отдыху и профилактическим лечебным процедурам.



**Стрелец.** Вы продолжаете играть в зрелищных представлениях и развлекательных мероприятиях первую скрипку. Вас где-то даже обожествляют, но и огонь также вызываете на себя. В родном доме не всегда понимают, с каким гением проживают под одной крышей. В среду и субботу рекомендуется оставить автомобиль в гараже.



**Козерог.** На работе предстоит отстаивать свои права, оттачивайте ораторское мастерство — туговато придется. Не допускайте сквозняков и случайных попутчиков и гостей в среду, пятницу или субботу. В доме весьма кстати может быть затеян косметический ремонт. Вам приятно будет ощущать заботу о себе, пусть даже незначительную, причем не на словах, а на деле.



**Водолей.** Далеко не всегда затраты на рекламную или PR-кампанию приносят эффект. Скорее, уносят деньги, особенно в среду или субботу. Вероятно появление гостей на средний период, и это может оказаться весьма полезным и приятным событием для вас. Впрочем, ближе к выходным неплохо бы самому наведаться в родительский дом.



**Рыбы.** Массовое количество споров и противостояний. Вероятно, придется посражаться с вышестоящими органами, влиятельными людьми за документальное оформление имущественных или материальных прав. Вы готовы вложить деньги в прибыльное дело, и это лучше всего сделать в пятницу или выходные. Выполнение работ сулит гонорар.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1693 Нумар падпісаны ў друк 26/03/2001 (15:00) Наклад – 9.550